


# DISTRICTUS
# ПАВЕТ




ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 6 (19) ЧЭРВЕНЬ 2003 г.


Кожны чуў: наш край маркотны,
Анічога ў ім няма,
За мяжой шукай вабноты,
Не губляй тут час дарма.
Бедаком сябе лічыць –
Гэта сорам, браце:
Ты зірні – вакол ляжыць
Дзіўнае багацьце.
Граньне гусляў, флейты сьпеў,
Гук дуды магічны,
Шэпат лісьця старых дрэў,
Бляск вады крынічнай,
Бліскавіц вясновых зьзяньне,
Пошум пушчаў і дуброў,
Вод імклівых віраваньне,
Статкі лосяў ды зуброў,
Соснаў гожых калыханьне
Ды паселішчы баброў –
Краю нашага аздобы
Толькі крокі запаволь.
Скінь свой смутак і жалобу,
Адпачыць душы дазволь.
Выйдзеш зранку ўвесну ў поле –
Там шчабечуць жаўрукі.
Зойдзеш у лес, дзе дыхаць вольна –
Бой вядуць цецярукі.
У нас касьцёлаў ды капліцаў
Нібы пэрлін на дне мора.
Замкі, вежы, сцен байніцы
Там схаваны таямніцы
У сутарэньнях, калідорах.
З чоўнам, роварам, ці пешкі
У край сьпяшайся цераз Мёры,
Дзе блакітныя прасторы.
Вабяць там лясныя сьцежкі,
Леднікоў эпохі рэшткі –
Камы, озы ды азёры.
Там рупліўцы адраджаюць
Старажытныя рамёствы,
Да мастацтва дотык маюць
І маленькі і дарослы.
Войса, Струста, Снуды, Несьпіш –
Цуд такі ты ў сэрца ўмесьціш.
У іх глядзіцца ноччу месяц.
Толькі ў воды іх нырніце,
Ці з халма на іх зірніце –
Згадкі лепшыя ўваскрэсяць.
Варты жалю той бядак,
Хто ў нару забіўся
І ад скарбаў тых, дзівак,
Сам адгарадзіўся.

*Зьміцер Давыдзенка*
*Масква-Менск*

# ВЕСТКІ

1 чэрвеня, у нядзелю, адбыўся чарговы фестываль народнай творчасці "Браслаўскія зарніцы". Праводзіўся ён у 36-ы раз. У апошнія гады фестываль набыў нібыта другое дыханне ў сувязі з тым, што ў Браслаў сталі запрашаць выдатныя калектывы народнай творчасці з суседніх балцкіх краін. Іх выступленні – звычайна з'яўляюцца яскравым запамінальным відовішчам. Аднак у гэтым годзе гасцей з суседніх краін не было, і фестываль падаваўся бледным і малацікавым. Не выратавала сітуацыю выступленне шэрагу калектываў з іншых гарадоў Беларусі: вакальнай групы "Добры дзень" (Наваполацк), ансамбля народнай песні і музыкі "Радзімічы" (Полацк), вакальнага квартэта "Натхненне" (Ушачы), ансамбля цыганскай песні "Джана Рома" (Ашмяны), ансамбля патрыятычнай песні "Саланг" (Жодзіна).

Не адрозніваўся навізной і разнастайнасцю і забаўляльны блок. Большасць людзей, якіх, дарэчы, было відавочна меней чым звычайна, бавіла час традыцыйна – "з чаркай і скваркай".

Адным з упрыгажэнняў свята стаў "Гарадок майстроў", арганізаваны Браслаўскім музейным аб'яднаннем. Побач са стэндамі з узорамі народнай творчасці працавалі вядомыя майстры, удзельнікі студыі "Ля возера", якія прытрымліваюцца дэкаратыўна-ужытковага напрамку ў сваёй творчасці: Наталля і Міхаіл Парахневічы, Сяргей Уманец, Міхаі л Чэркас, Эвеліна Друсь, Валянціна Валушка, Людміла Рулевіч і іншыя.



На абласным конкурсе ткачоў "Матчыны кросны" другое месца ў намінацыі "Ручнік" заняла Антаніна Кавалык, супрацоўніца Браслаўскага музея традыцыйнай культуры. Другая ўдзельніца з Браслава - Таццяна Цімошкіна – узнагароджана заахвочваючым дыпломам.



На беразе возера Струста прайшоў традыцыйны раённы турыстычны злёт школьнікаў. У злёце прымалі ўдзел 26 каманд з 23 школ і ПТВ. Пераможцамі сталі каманды гімназіі і Ахрэмаўскай СШ.





Поспехам завяршыўся цікавы эксперымент, які праводзілі сябры клуба аматараў жывой археалогіі з Браслава. Сутнасць яго заключалася ў тым, каб здабыць агонь з дапамогай драўлянага прыстасавання, асноўны элемент якога – рухомы стрыжань, які з дапамогай вяроўкі круціцца вакол восі. Памеры прыстасавання перавышаюць чалавечы рост. З гэтай прычыны яно атрымала сярод сяброў клуба жартаўлівую назву – самая вялікая запалка ў свеце. Падобныя прыстасаванні выкарыстоўваліся ў раннім сярэднявеччы для здабычы рытуальнага "жывога" агню. Пачатак эксперыменту быў пакладзены яшчэ два гады таму ў археалагічным летніку. Усе спробы напачатку былі марнымі – эксперыментатары здабывалі толькі дым. Працэс увесь час удасканальваўся, дапаўняўся новымі дэталямі, і вось днямі "запалка" запрацавала (на здымках). У розных спробах удалося дасягнуць амаль стопрацэнтнага выніку.



Працэс здабывання "жывога" агню, дарэчы вельмі відовішчны, будзе паказаны на свяце сярэднявечнай культуры ў Нясвіжы, якое адбудзецца 3 ліпеня.





# ВЕСТКІ

Мінскі мастак Уладзімір Кандрусевіч стварыў другую працу, прысвечаную славутаму браслаўскаму лекару Станіславу Нарбуту. На карціне – урач у прыёмным пакоі лячэбніцы, поўны жыццёвых сіл і энергіі (на здымку). Карціна выканана па заказу праўнука лекара Рышарда Гелерта, які таксама як і прадзед, дзед, бабуля і маці з'яўляецца медыкам, жыве ў Варшаве.





Браслаўшчына – рэгіён вельмі багаты на археалагічныя помнікі. Іх выяўленне і даследванне пачалося ў XIX ст. і працягваецца дагэтуль. Штогод на Браслаўшчыне працуе дзве-тры археалагічныя экспедыцыі. Вось і ў гэтым сезоне чакаюцца экспедыцыі, якія будуць даследваць гарадзішча Рацюнкі (экспедыцыя Белдзяржуніверсітэта), Майшулі (экспедыцыя Інстытута гісторыі НАН), грунтовага могільніка Пашавічы (экспедыцыя Гродзенскага ўніверсітэта). Браслаўская зямля зберагае яшчэ шмат сюрпрызаў. Днямі ў Браслаўскі музей была перададзена рэдкая знаходка – бронзавая падкованападобная фібула канца X – пачатку XI стст. Яна была знойдзена на ўскраіне в.Дукелі вучнем Канстанцінскай школы Русланам Зайцам. Цікава, што побач з гэтай вёскай не зафіксавана археалагічных помнікаў.

Аднак за апошнія гады археалагічнай спадчыне Браслаўшчыны нанесены значныя страты. Яскравы прыклад – знішчэнне гарадзішчаў Татарская Гара (непадалёку ад Браслава), Чорная Гара (у наваколлі в.Нурвяны). Найбольш цікавым было апошняе гарадзішча, культурны слой якога месцамі дасягаў 2-х метраў.

З дапамогай жыхара Браслава П.Агейчыка і школьнікаў-краязнаўцаў з Дрысвяцкай школы пад кіраўніцтвам Э.Шавелы на месцы знішчанага гарадзішча ўдалося знайсці невялікую колькасць прадметаў. Яны былі перададзены для апрацоўкі ў БДУ. Нават гэтыя аскепачкі матэрыяльнай культуры гарадзішча дазваляюць меркаваць, што быў знішчаны цікавейшы помнік пачатку нашай эры. Асобныя знаходкі з гарадзішча аднесены ліку рэдкіх ці нават унікальных.

## *Цікавая знаходка*

Цікавыя звест кі з Браслаўшчыны ўт рымліваюць асобныя нумары газет ы "Беларус" ("*Bielarus*"), якая выходзіла ў Вільні ў 1913-1915 гадах. Газет а друкавалася лацінкай і была разлічана на кат аліцкую част ку беларускіх сялян і інт элегенцыі. Пагарт аць падшыўкі выдання можна т олькі ў салідных кніжных зборах. У падшыўцы за 1914 год звярнула на сябе ўвагу публікацыя "З Ковеншчыны". Мат эрыял прысвечаны Браслаўшчыне. Аўт ар піша пра эт нічную, эканамічную сіт уацыю ў рэгіёне. Перлінай мат эрыяла з'яўляецца легенда аб Замкавай гары ў Браславе, якая ў т ой час быт авала сярод жыхароў мяст эчка. Пазней легенда забылася, яна не суст ракаецца ні ў воднай публікацыі аб Браславе. Мат эрыял падпісаны літ арамі "B.Ł.". Паводле сцверджанняў гіст орыка Алены Глагоўскай з Гданьска, якая займаецца беларускімі дзеячамі, мат эрыял напісаны Баляславам Лапыром. З біяграфіі гэт ага чалавека вядома няшмат : нараджэнец Браслаўшчыны, вучыўся ў гімназіі ў Коўна, далей жыў і вучыўся ў Санкт -Пецярбурзе. У паўночнай ст аліцы Расійскай імперыі, відаць, далучыўся да беларускага руху. У перыяд Заходняй Беларусі Б.Лапыр пасяліўся ў наваколлі Глыбокага. Займаў пасаду агранома Дзісенскага павет а. Карыст аўся вялікай пашанай сярод жыхароў Глыбоччыны, быў шчырым беларускім пат рыёт ам і шмат зрабіў для беларускага руху. Жыццё наш зямляк закончыў у засценках НКУС. Мат эрыял пра Б.Лапыра збірае краязнаўца з Глыбокага У.Скрабат ун, ім быў надрукаваны арт ыкул у газеце "Веснік Глыбоччыны" (24.12.1996 г.).

Сын Б.Лапыра — Уладзіслаў жыве ў Гданьску і з ім асабіст а знаёма А.Глагоўская.

Мяркуем, шт о чыт ачу будзе цікава азнаёміцца з арт ыкулам Баляслава Лапыра. Падаем яго ў перакладзе з лацініцы на кірылічны алфавіт .

# ЗАБЫТАЯ ЛЕГЕНДА

**З КОВЕНШЧЫЗНЫ.**

**Беларусы ў Ковенскай губерні жывуць блізка граніц Вітебскай і Віленскай губер. у ўсходнім кутку Новааляксандроўскаго павету. У заходняй старане гэтаго павету жывуць літвіны і чым далей адхадзіць на заход ад Віленскай губерніі, усё болей і болей можна спаткаць літвіноў, а менш беларусаў. Тутэйшыя беларусы, так сама як і літвіны, каталіцкай веры, але беларусаў усякі пазнае па іхняй гаворцы, па прозвішчах і па названнях іхных вёсак.**

**У Краснагорскай воласці, катора лляжыць на граніцы з Віцебскай губерніяй, і ў Слабодзкай, каторая гранічыць з Віленскай, – літвінаў зусім німа. У Браслаўскай воласці ёсць дзве вёскі – Струста і Жвірблі – дзе гаманяць па літоўску; у другіх вёсках гэтай воласці гаманяць па беларуску, ды самыя людзі і вёскі маюць беларускія прозвішчы, для прымеру хоцьбы ўзяць вёскі – Пузыры, Краснасельцы, Гумны, Муражэ, Рубеж, людскія прозвішчы – Сапель, Зямец, Гродзь, Журня. У воласцях Опсаўскай і Дрысвяцкай беларускія вёскі мешаюцца з літоўскімі.**

**Па казённаму падшчоту ў Новааляксандроўскім [павеце] у 1909 гаду было 23000 душ беларусаў; цяпер іх ужо шмат болей, бо за апошнія 23 гады павінна было прыбавіцца яшчэ колькі тысяч.**

**У беларускай часці Новаалександраўскаго павету мейсца дужа няроўнае: многа гор, балот і азёр. Самыя вялікія азёры – Дрывята, 10 вёрст даўжыні і 6 шырыні, Снуда, блізка такое як Дрывята і Неспіж. Азёры належаць да казны або да двароў і аддаюцца ў арэнду жыдом.**

**Зямля не надта добрая – дзе пясок, дзе глінка – ды і тэй зусім мала. Найчасцей на гаспадара прыходзіцца 4-5 дзесяцін, а ў каго ёсць поў валокі, таго ўжо называюць багатыром, Хлеба людзям ня то, каб на прадажу, але і сабе часта не хватае, дык каб зарабіць грошы на на хатнія патрэбы, прыходзіцца ісці ў заработкі – наймацца лавіць рыбу, пілаваць і гнаць лес, а ў летку моладзь ідзець у Рыгу**

**на водныя роботы.**

**Да 1900 году ўся зямля была ў шнюрах, цяпер ўжо пераходзяць на хутары. Дагэтуль перайшлі на хутары ў Краснагорскай валасці 21 вёска, ў Слабодзкай 2 і ў Браслаўскай 12.**

**Главнае мястэчка беларускай Ковеншчызны, гета Браслаў, раскінутае на берагох азёр Дрывяты і Навяты. Атсюль па пачтовай дарозі 40 вёрст да Дзвінска і 35 да Краслаўкі. У Браславі ёсць касцёл, цэрква, почта і тэлеграф, бальніца, 2 народныя вучыліщчы – для хлопцаў і дзеўчат, цэркоўная школа, каса, пажарная дружына, валасная канцылярыя, мешчанская ўправа, аграном і земскі начальнік. У Браслаў звозіцца і найважнейшы тавар гэтаго краю – рыба, каторая атгэтуль ідзець у Дзвінск і Пецярбург. Браслаў – дужа старое мястэчка. Даўней тут было асобнае княства і называлася “Братыслаў”; князь, як кажуць, жыў у 3-ох верстах ад Браслава, ў нёсцы, каторая і цяпер завецца “Княжына”. Пазней Браслаў быў паветовым горадам Мінскай губерніі, але ў 1808 гаду паветовае ўпраўленне было атсюль перанесено у Відзы.**

**Паміж Браслаўцамі ходзіць колькі легенд з даўнейшых часаў. Вот хоцьбы ўзяць адну з іх. Цяпер ў Браславі, пасярод мястэчка, стаіць гара, каторую называюць “Замкам”. Дык людзі кажуць, што быццым калісьто тут было сусім роўнае места, а там, дзе цяпер гара, стаяў князёўскі замак; здарылася раз, што на князя пайшоў вайной нейкі кароль, каторы прывёў з сабой незмяроную моц войска; ён сказаў кожнаму свайму салдату набраць па поўнаму боту зямлі і высыпаць яе на княжын дом. Салдаты нанеслі гэтолькі зямлі, што засыпалі ўвесь замак, і на яго мейсцы апынулася гара, каторую затое і празвалі “Замкам”, а кала замку, капаючы, столькі выбралі зямлі, што зрабілася на гэтым мейсцы возера, каторае цяпер завецца Навятам. У княжым доме, разам з усім замкам, засыпалі маладую князёўну, толькі яна не памерла, бо яе заклялі, а жывець і цяпер у глыбіне гары і кажуць, бытцым пара ад пары, у пайначы, разваліваецца гара на дзве палавіны, разчыняецца замак і князёўна чэкаіць, каб хто зняў з яе чары.**

В.Ł

---

*Сярод легенд і паданняў пра Браслаў найбольш вядома легенда, галоўнымі героямі якой з'яўляюцца князь Брас і прыгажуня Дрыва. Гэту легенду ў розных варыянтах можна сустрэць у друкаваных выданнях. Упершыню яна сустракаецца ў зборніку вершаў на польскай мове “Над возерам Дрывяты”, надрукаваным у Браславе ў 1935 г. Зборнік падпісаны псеўданімам А.Снудоўскі. Сапраўднае імя аўтара – Ян Роберт Стахура. Не выключана, што ён прыдумаў рамантычную гісторыю пра драматычнае каханне князя да ганарлівай Дрывы. Гэта легенда сустракаецца ў беларускіх зборніках фальклору. У 70-я гады быў папулярны вершаваны варыянт, напісаны Барысам Гарэлікам. І вось да гэтай тэмы звярнуўся беларускі паэт Мікола Мятліцкі. Вершаваны пераказ легенды “Брас і Дрыва” уключаны ў зборнік “Жыцця глыбінныя віры” (Мінск, 2001 г.). Не кожны трымаў у руках гэту кнігу і таму мы вырашылі надрукаваць яго.*



**Г.Паплаўскі. Легенда аб Браславе**

# БРАС І ДРЫВА

Ружай Дрыва ў князя Дзвіна
Жаніхам цвіце на згубу.
Выбіраць сама павінна,
Павядзе які да шлюбу.

Як пламенне, позірк Дрывы
Зранку падае на дзверы,
Непрыязна ганарлівы,
Выстаўляе кавалераў.

Друйка-маці з вуснаў Дзвіна
Словы чуе ў раз каторы:
– Без клапот жаніў бы сына! –
Гнеўна сыплюцца дакоры.

Дрыва кінула каралі –
Зырка пырснулі, як зоркі.
Тры браты прад ёй стаялі,
Ды адказ пачулі жорсткі:

– Меч булатны скажа слова,
Шлюб чыйго жыцця акраса ...
Снуд патайна просіць Нова
У магілу звесці Браса.

Наваколле вечар цьмяны
Ценем здрады ахінае.
Ад смяротнай згубнай раны
На кургане Брас канае.

Ды адна ў красуні ўмова,
Тая ж самая гамонка:
– Толькі меч даверыць слова!
Пераможцу буду жонкай.

І браты мячы ў сечы
Бліз палаца скрыжавалі.
Доўга секліся – пад вечар
Бездыханна ўдвух упалі.

І не зналі Ноў са Снудам,
У магілу лёгшы разам,
Што, прыняўшы грэх іудаў,
Пакваталіся не з Брасам.

Брас пачуў жахоту-вестку,
Здрыгануўся ўвесь журліва:
Будзь праклятаю нявеста!
Адвярнуўся князь ад Дрывы.

У святліцы тужыць Дрыва,
Боль абразы сэрца рэжа.
Узышла яна імкліва
На вяршыню Белай вежы.

Смерць уласную гукала
І знайшла ў азёрным плёсе,
Шызай чайкай Дрыва стала,
Век над хваляю галосіць.

А памерлі Друйка з Дзвінам,
Быў прастол заняты Брасам.
З той ссівелас даўніны
Між азёр узняўся Браслаў.

Гляжаць Дзвіна і Друйка,
Снуд, Навята і Дрывяты.
А легенды праўда-бруйка
Спавіла стагоддзяў шаты.

Друкуецца па: М.Мятліцкі. Жыцця глыбінныя віры. Вершы і балады. Мн. 2001.

# У ПОШУКАХ КАРАНЁЎ

**(заканчэнне. Пачатак у №5)**

Нарадзіўся ён у шляхетным доме 15 мая 1762 года ў Пінскім павеце. У дзяцінстве атрымаў хатнюю адукацыю. Вучыўся польскай, французскай, лацінскай мовам, геаметрыі. У 16 гадоў (1778 г. па жаданню бацькі пачаў службу ў Літоўскай брыгадзе кавалерыі народавай (так званая Пінская ці Пяцігорская брыгада). У 1781 годзе стаў ад'ютантам генерала Ш.Патоцкага, служыў над Днястром. У 1791 г. атрымаў чын паручніка, узначаліў харугву, якой камандаваў у час вайны 1792 г. Пасля першага падзела Рэчы Паспалітай быў вымушаны прыняць прысягу на вернасць Расіі, аднак пасля пачатку паўстання 1794 г. адрокся ад расійскай службы. Сабраў сваю 19 брыгаду і прабіўся да Вільні, дзе злучыўся з вялікапольскай дывізіяй генерала Яна Грахоўскага, а 19.05.1794 г. аб'яднаўся з войскам Т.Касцюшкі. За гэты ўчынак атрымаў чын брыгадзіра Польскай арміі (у войску Варшаўскага княства – генерала брыгады). Вызначыўся ў бітве пад Хелмам Люблінскім (08.06.1794 г.), праславіўся падчас адбіцця штурма на Волі, удзельнічаў у бітве пад Мацяёвіцамі. У апошняй бітве Ю.Копаць быў тройчы паранены і трапіў у палон. Паводле судовага прыгавору, абвешчанага ў Смаленску, быў сасланы на Камчатку. Асуджанага везлі праз Смаленск, Маскву, Казань, Табольск, Іркуцк, Ахоцк, а далей морам да Камчаткі. У ссылцы генерал прабыў каля 2-х гадоў, назіраючы за прыродай і звычаямі тубыльцаў. Пасля смерці Кацярыны II і амністыі, абвешчанай Паўлам I, з вялікімі прыгодамі вярнуўся на радзіму.

Пэўны час жыў у Вільні, потым у Т.Чацкага ў Парыцку, у князёўны Ізабэлы Чартарыйскай у Пулавах. У Пулавах Копаца намовілі на напісанне ўспамінаў. Пасля гэтага некалькі гадоў жыў у А.Хадкевіча, пазней у дар ад Д.Радзівіла атрымаў фальварак, дзе гаспадарыў са сваімі былымі жаўнерамі.

У 1817 годзе імператар Аляксандр I згаджаецца вярнуць Копацю маёнтак яго продкаў Лушнева ў Браслаўскім павеце. Тут брыгадзір праводзіць апошнія 10 гадоў свайго жыцця і памірае ў 1827 годзе. Пахаваны ў родавай капліцы Копацяў. Яго вядомы "Дзённік.." быў напісаны, верагодней за ўсё, у 1810 годзе. Упершыню выдадзены ў Вроцлаве ў 1837 годзе (праз 10 год пасля смерці аўтара). У 1867 г. пабачыла свет парыжскае выданне з прадмовай А.Міцкевіча, якую склалі лекцыі ад 6 і 10 мая 1842 г. па славянскай літаратуры, прысвечаныя твору Ю.Копаця. А.Міцкевіч у прыватнасці адзначае: "...Маляўнічасць апісанняў аўтара ў спалучэнні з перажытымі прыгодамі, арыентацыя ў палітычных пытаннях, невядомыя падрабязнасці аб Сібіры – усё гэта вельмі каштоўна..." Паэт параўноўвае мемуары Копаця з творамі Нямцэвіча, Паска, Маньчэўскага і Брадзінскага. Таксама Юліуш Славацкі ў "Anhellim" малюе сібірскія краявіды пад уплывам апісанняў "Дзённіка...", у якім "...багата прыгожых апісанняў прыроды Сібіры, звычаяў розных плямёнаў, палітычных разважанняў аб барацьбе за свабоду з царскім урадам, геаграфічных заўваг аб сувязях Азіі з Амерыканскім кантынентам..."

Праца Ю.Копаця была выдадзена ў Берліне ў 1863 і 1868 гадах, у Львове - у 1881, 1899, 1906 гадах, у Варшаве - у 1916 г., у Хелмне – у 1865 г. Апошняе поўнае выданне пабачыла свету 1995 г. у Вроцлаве. Гэта крытычнае выданне, з каментарыямі, з прадмовай прафесара Стэльмахоўскага.

З пэўным здзіўленнем даведаўся, што постаць генерала Юзафа Копаця вядома і шануецца ў сучаснай Беларусі. Неяк пазваніла мне Ганна Астроўская з Быдгошчы, якая даведалася нумар тэлефона праз адраснае бюро. Аказалася, што ў Браславе, у гістарычна-краязнаўчым музеі вельмі цікавяцца Ю.Копацем, матэрыяламі пра брыгадзіра, надрукаванымі ў Польшчы, публікацыямі яго нашчадкаў і таму хацелі б завязаць са мной кантакт. Даведаўся, што Ю.Копаць трактуецца ў Беларусі, асабліва на Браслаўшчыне, дзе быў яго маёнтак Лушнева, як беларускі нацыянальны герой. Разумею, што паколькі Копаці мелі рускія (беларускія) корані і адыгрывалі прыкметную ролю ў дзяржаве, якая зараз трактуецца як беларуска-літоўская (Вялікае княства Літоўскае), то асоба майго продка лагічна лічыцца суайчыннікам сярод жыхароў сучаснай Беларусі.

Дзякуючы музею, атрымаў шэраг вельмі цікавых матэрыялаў на беларускай мове (якая вельмі падобна на польскую – чытаю без цяжкасцей) пра Ю.Копаця, надзвычай каштоўнымі для мяне былі звесткі пра дакументы, якія захоўваюцца ў Гістарычным архіве Літвы ў Вільні і Акруговым архіве ў Коўне. Дзякуючы ім, атрымаў каштоўныя ксеракопіі "сямейных рэліквій". Па-першае, дакумент продажу маёнтка Лушнева з прылягаючымі вёскамі, складзены 27 жніўня 1712 г. Тэкст, напісаны каля 300 гадоў таму, месцамі вельмі цяжкі да прачытання. Сутнасць яго ў тым, што Гедэон Сальмановіч падстолі інфлянцкі перадае Мікалаю Копацю, паручніку акалоўскаму, яго жонцы Канстанцыі Мірскай, скарбнікавай Браслаўскай, і іх сынам лепшыя ўладанні Лушнева, Герчаны і Снегі ў Браслаўскім павеце за 2 тысячы злотых з "...дворнымі пабудовамі, пабудовамі фальваркавымі і гуменнымі, з падданамі прыслужнікамі, з іх жонкамі, дзецьмі, набыткам, чыншам, павіннасцямі, якія ў інвентарах указаны, грунтамі, сенажацямі, балотамі, азёрамі, ставамі, лугамі, рэкамі, рэчкамі з вольнай лоўляй рыб, з пушчамі, лясамі, барамі, ..., зараслямі, з вольным уступам да іх, са звярамі.". Акт падпісаны шэрагам службовых асоб, сярод якіх Кшыштаф Бутка, суддзя гродскі





**Фрагменты карты маёнка Лушнева. 1824. Архіў Мечыслава Копаця. Вроцлаў.**

браслаўскі, падчашы Княства Інфлянцкага, Канстанты Ян Ліповіч, гарадпічы браслаўскі.

Другі дакумент, атрыманы з Вільні, – гэта выпіс прывілея караля Аўгуста ІІ ад 26 лютага 1713 г., падпісаны ў Варшаве. Гэты ліст быў упісаны ў кнігі Трыбунала Вялікага княства Літоўскага 2 мая 1740 г. па просьбе Мікалая Копаця, стольніка Вількамірскага. Кароль пацвярджвае права перахода маёнткаў Лушнева, Герчаны і Снегі ў Браслаўскім павеце ад Гедэона Сальмановіча да Мікалая Копаця, стольніка вількамірскага, правам "ленным вячыстым" (значыць, на вечнае ўладанне – рэд.). Дакумент цікавы тым, што пералічвае папярэдніх уладальнікаў маёнтка. Згадваецца прывілей караля і вялікага князя Жыгімонта Аўгуста Яну Павецкаму з сумай 800 коп грошай літоўскіх 1568 г., пазнейшыя прывілеі Жыгімонта ІІІ 1627 г. Яну Юдыцкаму, Уладзіслава IV 1637 г. Пятру Дзенісевічу, Яна Казіміра 1665 г. Якубу Сальмановічу, яго жонцы і сынам, Яна ІІІ 1684 г. і 1689 г. Гедэону Сальмановічу. Апошні прасіў караля Аўгуста ІІ аб перадачы праваў на маёнтак Копацям, на што і была атрымана згода манарха.

Яшчэ ў Вільні атрымаў наступныя дакументы: 2 лісты, у тым ліку адзін напісаны рукой генерала Копаця, другі ім падпісаны. У першым лісце генерал просіць віленскага ваеннага генерал-губернатара Рымскага-Корсакава аб падтрымцы ў яго клопатах перад імператарам аб змене ўказа ад 21 снежня 1804 г., у якім маёнтак Лушнева надаецца Копацям толькі ў пажыццёвае ўладанне. Ва ўказе ёсць сцверджанне, што маёнтак адласца Копацям на падставе таго самага права, якое меў ранейшы ўладальнік, аднак гэта права грунтавалася на вечным уладанні, а не на пажыццёвым. У другім лісце брыгадзір дзякуе Рымскаму-Корсакаву за тое, што ён выслаў да імператара прыязную да былога паўстанца рэкамендацыю, што дапамагло пацвярджэнню леннага права на маёнтак Лушнева. Трэці ліст гэта распіска аб прыняцці канцылярыяй генерал-губернатара дакумента аб наданнях польскімі каралямі леннага права на маёнтак. Таксама атрымаў дакладны вопіс усіх захадаў аб вызначэнні статуса маёнтка на рускай мове, які яшчэ патрабуе дакладнага перакладу і аналізу.

Дзякуючы маім публікацыям, якія датычыліся шляхты ў Польшчы за апошнія 10 гадоў, удалося завязаць цікавы кантакт з Ежы Копацем герба Кроя з Германіі. Гэта журналіст польскай прэсы і, напэўна, мой далёкі кроўны. У Польшчы і Еўропе даволі многа людзей з прозвішчам Копаць. Устанавіць, у якой ступені сваяцтва яны знаходзяцца са мной, яшчэ належыць. Найперш патрэбна дэталёвая прапрацоўка дакументаў архіўных збораў Польшчы, Літвы, Расіі і Беларусі. Магчыма, гэтай справай зоймуцца і мае нашчадкі, калі будзе да гэтага зацікаўленасць.

Мечыслаў Копаць (Вроцлаў. Польшча)

Старадаўняй
Літоўскай
Пагоні
не разбіць,
не спыніць,
не стрымаць!!!

Максім Багдановіч



У якасці дадатка да артыкула М.Копаця друкуем тэкст прывілея Богушу Копацю на маршалкоўства напісаны на старабеларускай мове, які захоўваецца ў фондзе Літоўскай метрыкі архіва старажытных актаў у Маскве.

---

*Привилей урожоному Богушу Коптю на врад маршалковство повету Браславского по Дмитру Путате спалое.*

*Жикгимонт Третий Божой милостью король польский.*

*Ознаймуем сим нашим листом всим вобец кому бы то ведати належало, што который врад земский маршалковство повету Браславского посмерти небожчика Дмитра Путяты до нашого припал. Ино мы государ маючы залецоную на тот врад годности и заслуги продком нашим королем их милости польским з нелитованием здоровья и кошту по вси часы военные окозованые подкоморого Браславского урожоного Богуша Копота который врад подкоморный себе зложити умыслил хотечи ему вдячности ласки нашое за таковые заслуги его оказати и местцом нежи врадники земские оного повету вывышити взявши з него врад подкоморски до шацунку нашого поменое маршалковство Браславское на особы его прекладаем. Мает он Богуш Копот тот врад маршалковский на особе своей носечи инши справовати и заседаючи местце свое на судах и соймиках оного повету всякое учтивости владзы здавна тому враду належачое прикладом иншихъ маршалков поветовых заживати до живота своего иво до иншого в нас [ ... ]. И на то дали есмо ему сей лист наш с подписом руки нашое и з нашою печатью. Писан у Варшаве лета Божаго нарожения тисеча пят сот девяти десят семого месяца февраля двадцати пятого дня.*

*Подпис руки господарское*
*Волович писар*

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў.
Ф.389, спр.83, арк.179, 179 адв.

---

*Трагічныя старонкі мінулага*

*Выданне выхадцаў з Браслаўшчыны ў Польшчы "Браслаўскі ліст" у красавіцкім нумары змясціла спіс нашых землякоў, якія загінулі ў знакамітай бітве ІІ-й сусветнай вайны пад Монтэ-Касіна (Італія). Спіс на падставе польскіх выданняў падрыхтаваў Збігнеў Пашкевіч*

# ЗАГІНУЛІ ПАД МОНТЭ-КАСІНА

1. Анісімаў Пётр, улан – нарадзіўся 24.06.1917 г. Друя, павет Браслаў. Загінуў 19.05.1944 г.; Пахаваны ў Монтэ Касіна.
2. Басакоў Атанас, стралок – нарадзіўся 03.08.1911 г. Захвашчоўка, павет Браслаў. Загінуў 22.05.1944 г.; Пахаваны ў Монтэ Касіна.
3. Букацін Сымон, стралок – нарадзіўся 15.03.1915 г. Варонка, павет Браслаў. Загінуў 22.05.1944 г.; Пахаваны ў Монтэ Касіна.
4. Гендэлеўскі Генрык, стралок – нарадзіўся 19.02.1919 г. Слабодка, павет Браслаў. Загінуў 19.05.1944 г.; Пахаваны ў Монтэ Касіна.
5. Юран Стэфан, стралок – нарадзіўся 02.10.1908 г. Думарышкі, павет Браслаў. Загінуў 12.05.1944 г.; Пахаваны ў Монтэ Касіна.
6. Кавалеўскі Казімір, камандзір аддзялення – нарадзіўся 20.10.1912 г. Жвірблі, павет Браслаў. Загінуў 17.05.1944 г.; Пахаваны ў Монтэ Касіна.
7. Крупко Мечыслаў, стралок – нарадзіўся 28.06.1914 г. Баравыя, павет Браслаў. Загінуў 19.05.1944 г.; Пахаваны ў Монтэ Касіна.
8. Марковіч Юзаф, стралок – нарадзіўся 15.03.1910 г. Гаране, павет Браслаў. Загінуў 12.05.1944 г.; Пахаваны ў Монтэ Касіна.
9. Піртань Антон, стралок – нарадзіўся 04.07.1915 г. Плюсы, павет Браслаў. Загінуў 17.05.1944 г.; Пахаваны ў Монтэ Касіна.
10. Рамза Тэадор, стралок – нарадзіўся 15.06.1910 г. Барсукі, павет Браслаў. Загінуў 12.05.1944 г.; Пахаваны ў Монтэ Касіна.
11. Ушак Зыгмунт, стралок – нарадзіўся 14.11.1907г. Антонішкі, павет Браслаў. Загінуў 12.05.1944 г.; Пахаваны ў Монтэ Касіна.
12. Стэрыновіч Мечыслаў, сяржант – нарадзіўся 01.01.1906 г. Белюцішкі, павет Браслаў. Загінуў 17.05.1944 г.; Пахаваны ў Монтэ Касіна.
13. Міхалеўскі Лявон, капітан – нарадзіўся 20.02.1905 г. Сакалец, павет Браслаў. Загінуў 17.05.1944 г.; Пахаваны ў Монтэ Касіна.

Браслаўцы таксама змагаліся з гітлераўцамі ў складзе экіпажаў польскіх ваенных караблёў. Між іншым удзельнічалі ў канвоях саюзнікаў, якія дастаўлялі ваенныя грузы з ЗША да Мурманска для Чырвонай Арміі. Адольф Бланяж з Браслава (нар. 10.5.1924 г.) быў мараком карабля «Аркан», загінуў 8 кастрычніка 1943 г. разам з большай часткай экіпажа ў Атлантыцы. Карабель затануў ад нападання нямецкай тарпеды, выпушчанай падводнай лодкай.

## *Выдавецкія навіны*

У выдавецтве "Marpress" (Гданьск, Польшча) пачала выходзіць серыя "Карты Віленшчыны", якая будзе складацца з пяці частак. Ужо пабачылі свет першая частка з картамі Ашмянскага і Свянцянскага паветаў, другая – з картамі Пастаўскага і Вілейскага паветаў і трэцяя, з картамі Браслаўскага і Дзісенскага паветаў. Кожная частка ўтрымлівае якасныя копіі лістоў тапаграфічных карт (масштаб 1:15000, або ў 1 см – 1,5 км), падрыхтаваных у 1937 г. Вайсковым геаграфічным інстытутам. Для гісторыкаў, краязнаўцаў падрабязныя карты, на якіх пазначана шчыльная сетка паселішчаў, яшчэ не закранутая вайной і савецізацыяй, уяўляюць велізарную каштоўнасць. У распараджэнні музея маюцца дзве часткі выдання – 1-я і 3-я, у якіх змешчаны карты на значныя кавалкі тэрыторый сучасных Браслаўскага, Мёрскага і Шаркоўшчынскага раёнаў. Выданне падаравала даследчыца з Гданьска Алена Глагоўская.




Пабачыў свет каляровы каталог "Пётр Сергіевіч. 1900-1984. З прыватных збораў у Польшчы", падрыхтаваны Беларускім культурным таварыствам "Хатка" і Беларускім гістарычным таварыствам – арганізацыямі, якія дзейнічаюць у Польшчы. Каталог утрымлівае рэпрадукцыі шэрагу карцін прадстаўленых на выставах, якія прайшлі ў Беластоку і Гданьску, поўны пералік твораў выставы, уступны тэкст на трох мовах: беларускай, польскай, літоўскай. Змешчаны фотаматэрыялы пра мастака, выказванні аб ім розных дзеячоў. Сабраная бібліяграфія публікацый прысвечаных П.Сергіевічу. Каталог будзе карысны для ўсіх, хто цікавіцца жыццёвым і творчым шляхам нашага знакамітага земляка.

* * *




У выдавецтве "Каўчэг" увесну выйшла ўжо другая па ліку кніжка вершаў Яўгена Расалая «Нам верить в жизнь судьбой дано». Пасля выхаду ў адстаўку з вайсковай службы аўтар прыехаў у Браслаў. Вершы Я.Расалай піша на розныя тэмы і ў гэтай кніжцы звяртаецца да падзей Вялікай Айчыннай вайны, праблем грамадства, кахання, сяброўства. Традыцыйна аўтар значную частку радкоў прысвяціў гісторыі і прыродзе Браслаўшчыны, прыгажосці яе краявідаў. Кніжка надрукавана накладам 500 экзэмпляраў пры частковай падтрымцы прыватных асобаў.

## Кутох калекцыянера

З нагоды выставы карцін мастака Пётры Сергіевіча ў Беластоку і Гданьску Таварыства беларускіх журналістаў у Польшчы выпусціла серыю паштовак з рэпрадукцыямі некаторых карцін мастака, прадстаўленых на выставе. Паштоўкі прыдатны і для адкрытай перасылкі. Рэпрадукцыі карцін змешчаныя на паштоўках павінны паспрыяць папулярызацыі славутага беларускага мастака. Даход ад продажу мяркуецца скарыстаць на далейшую папулярызацыю творчасці П.Сергіевіча.


Вільня зімой. 1955.

## Гартаючы старыя газеты

Г.Браслав.

Дирекция народного училища приобрела за 3500 руб. усадебный участок земли из имения барона Энгельгардта «Зарачье» мерою 10 десятин с жилым домом и всеми постройками для открытия литовского 2-классного училища. В настоящее время под наблюдением учителя соседнего народного училища г.Каптура, производятся работы по приспособлению господского дома под помещение училища. Работы эти будут закончены к августу месяцу и с начала учебного года откроется названое училище. Остальную часть имения «Зарачье» раскупили при содействии крестьян банка местные крестьяне-белорусы.

Виды на урожай более или менее определились. Урожай озимых остается ниже среднего, яровых – средний. Особенно плоха пшеница.

Белорус.

**Северо-Западный телеграф. 12 июля 1908 г.**

Г.Видзы.

7 июля жители города Видзы были напуганы пожаром. Загорелась и сгорела общественная баня. Причина пожара не выяснена, хотя надо полагать, что причина кроется в плохом содержании печей и труб. Погода стоит жаркая. Хозяева спешат окончить уборку сена.

**Северо-Западный телеграф. 13 июля 1908 г.**

## Па старонках «Браслаўскай зьвязды»

Партыйна-камсамольская група Опсаўскай воласці праводзіць сярод насельніцтва шырокую палітычна-масавую работу. Па воласці створаны і рэгулярна працуюць больш дзесятка гурткоў па вывучэнню Сталінскай Канстытуцыі, Праграмы і Статута ЛКСМ. У гуртках вучацца 400 чалавек. Колькасць жадаючых наведваць гурткі з кожным днём расце ...

... У мястэчку Опса абсталёван клуб. Кожны вечар тут сабіраецца многа старыкоў і моладзі, чытаюць газеты, культурна праводзяць свой вольны час.

... Клуб наведвае каля 250 чалавек. Тут сіламі мясцовых актывістаў арганізоўваюцца даклады, спектаклі і танцы. Часта працоўныя Опсы глядзяць і кінафільмы.

У клубе адбываюцца заняткі харавога і музыкальнага гурткоў, якія зараз вывучаюць савецкія песні. Добра працуюць харавыя гурткі ў вёсках Медзюкі і Пеліканы.

Ёсць у Опсе і Чырвоны куток, які таксама праводзіць сярод насельніцтва вялікую палітычна-масавую і агітацыйную работу.

Е.Савош

***Звязда. 15 снежня 1939 г.***

* * *

Аб'ява.

Браслаўская планерная школа вытварае набор вучлётаў без адрыва ад вытворчасці. У школу прымаюцца асобы ад 15 да 30 год маючыя асвету не менш 6 класаў. Паступаючым трэба прадставіць 1) заяву; 2) аўтабіяграфію; 3) даведку аб соцпаходжанні і месца работы. Дакументы прымаюцца да 15 лютага 1941 г. За спраўкамі звяртацца ў райсавет Ассавіяхіма, Браслаў, Совецкая,12

Райсовет Ассавіяхіма.

***Звязда. 4 лютага 1941 г.***

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: braslavmc@vitebsk.unibel.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)